# Здароўя... хутчэй, няма, чым ёсць

## Дзіцячым урачам у наш час даводзіцца лячыць і венерычныя захворванні

***Дзяцей у нашай краіне нараджаецца ўсё менш. Да таго ж, усё менш нараджаецца і дзяцей здаровых. Гэтыя факты ўжо даўно сталі для нас звыклымі. Можна шмат разважаць пра тое, чаму так адбываецца і што трэба рабіць. Але ж гаварыльні такога кшталту і так дастаткова. Што ж робіцца сёння ў плане вырашэння такіх праблем? За аўтарытэтнымі тлумачэннямі я вырашыла звярнуцца да Людмілы Іванаўны БАРАНЧЫКАВАЙ, галоўнага ўрача пятнаццатай дзіцячай гарадской паліклінікі.***

– Прыярытэтны кірунак нашай працы сёння – прафілактыка. На працягу года на базе нашай паліклінікі створаны школы здароўя. Іх прызначэнне – актывізацыя сям'і ў працэсе выхавання дзіцяці, павышэнне прэстыжу здаровага ладу жыцця, медыцынскай актыўнасці сям'і. Ёсць у нас школа здароўя для будучых мам. Тут праводзіцца цыкл практычных заняткаў для цяжарных жынчын. Акцэнт мы робім на папулярызацыю груднога кармлення як асноўнай умовы росту здаровага дзіцяці. Лепш няхай мама дазволіць сабе сокі, вітаміны і г.д., а эканоміць – на сухіх малочных сумесях.

Таксама ў нашай паліклініцы мы праводзім заняткі для маладой сям'і. Акрамя мам, мы запрашаем наведваць іх і тат, і бабуль, і дзядуль. Бо нярэдка бывае так, што найбольш аўтарытэтным выхавальнікам у сям'і з'яўляецца бабуля, але яе погляды на тое, як трэба выхоўваць дзіця здаровым, не заўсёды супадаюць з рэкамендацыямі ўрача. Тады маладая мама і не ведае, каго паслухаць. А важна, каб уся сям'я прытрымлівалася аднаго, правільнага спосабу выхавання. Са здароўем эксперыментаваць не варта.

Сёння мы актыўна прыцягваем да прафілактычнай работы ўчастковых медсясцёр. Ёсць у нашай паліклініцы такія прыёмы, якія вядуць медсёстры.

На базе стаматалагічнага аддзялення існуе кабінет прафілактычнага прыёму. Там можна даведацца, як правільна даглядаць за поласцю рота, можна атрымаць неабходныя рэкамендацыі, праверыць стан здароўя зубоў і інш.

У нас навучаюць дзяцей плаваць з трохтыднёвага ўзросту. У паліклініцы два басейны – для зусім малых дзяцей і для крыху большых. Педыятры накіроўваюць туды як практычна здаровых дзяцей, так і тых, хто падвержаны рызыцы хранічнага захворвання. У якасці меры прафілактыкі прымяняецца масаж.

**- Якія асноўныя прычыны дзіцячых захворванняў?**

– Сёння амаль што няма практычна здаровых мам. Таму і дзеці нараджаюцца слабыя. Ва ўзроставай групе з аднаго да чатырох гадоў павелічэнне хваравітасці звязана з паступленнем малых у дзіцячыя дашкольныя ўстановы: цяжка праходзіць перыяд адаптацыі. Увогуле, да трох гадоў гэта супрацьпаказана.

У школьным узросце на здароўе ўплываюць перагружаныя вучэбныя праграмы, не лепшым чынам спланаваныя ў школе заняткі фізкультурай. Іх трэба зрабіць такімі, каб яны былі накіраваны на барацьбу з гіпадынаміяй, на ўмацаванне здароўя, а не на здачу розных нарматываў. Не ўсім жа быць спартсменамі. Трэба, каб дзіця з задавальненнем ішло на фізкультуру. А ў нас неяк гэта адбываецца прымусова. З другога боку, бацькі часта імкнуцца вызваліць дзіця ад такіх заняткаў. Але тое таксама не выйсце. Урачы вельмі дыферэнцыравана падыходзяць да такога пытання. Лепшым варыянтам было б увядзенне ў школе спартыўных заняткаў кшталту аэробікі ці жвавых гульняў.

**- У школе ёсць свае медыцынскія работнікі. Акрамя аказання элементарнай дапамогі, калі штосьці здараецца, якой яшчэ справай яны займаюцца?**

– Медыкі-фельчары, што працуюць у школах, праводзяць санітарна-асветніцкую работу, накіраваную на прафілактыку захворванняў, сочаць за санітарна-гігіенічным рэжымам, за правільнасцю асвятлення класаў, рассаджвання ў школах, за тым, як падабрана мэбля – ці адпавядае яна росту дзіцяці і г.д.

**- Наколькі я ведаю, у вашай паліклініцы бывае шмат дзяцей, эвакуіраваных з забруджаных радыяцыяй тэрыторый. Ці ёсць істотныя адрозненні ў стане іх здароўя ад стану здароўя астатніх дзяцей?**

– Крыху раней такіх дзяцей у нас было дзве тысячы, а цяпер, калі адкрылася восьмая дзіцячая паліклініка, частка перайшла туды, і ў нас засталося семсот. Пры параўнанні ўзроўню іх здароўя і ўзроўню здароўя дзяцей, якія ад нараджэння жылі ў чыстай зоне, мы асаблівай розніцы не заўважаем ні па структуры захворванняў, ні па частаце. Але ўсё роўна кожны год такія дзеці праходзяць дыспансерызацыю, штогадовыя прафілактычныя агляды.

**- У сувязі з тым, што колькасць дзяцей усё ж такі памяншаецца, вызваляюцца бюджэтныя сродкі, накіраваныя на падтрыманне здароўя дзяцей. Як, на ваш погляд, лепш было б выкарыстаць іх?**

– На ўвядзенне розных методык, набыццё медыцынскага абсталявання, трэнажораў для лячэння скаліёзу. Вельмі быў бы дарэчы масажны комплекс "Рэмакс" – ён дазволіў бы праходзіць лячэнне большай колькасці дзяцей, бо ў нас, напрыклад, чакаюць па тры месяцы, каб трапіць на масаж. Гэта тое, што можна было б зрабіць у нашай паліклініцы. А ўвогуле асноўнае – прафілактыка. Яна шмат сродкаў не патрабуе. Галоўнае тут – жаданне, імкненне да здаровага ладу жыцця. Добра было б выкарыстаць бюджэтныя сродкі на папулярызацыю здаровага ладу жыцця праз СМІ, на распрацоўку новых форм работы з дзецьмі. Адна з такіх новых форм, калі валанцёры-падлеткі, а не дарослыя, расказваюць сваім равеснікам пра тое, напрыклад, што курыць не трэба, знаходзячы аргументы – блізкія, зразумелыя для дзіцячай аўдыторыі. Сёння мы асабліва імкнемся звярнуць увагу на сем'і, якім неабходна прыйсці да здаровага ладу жыцця. Перад школьнікамі паўстала праблема венерычных захворванняў. Паліклініка мае ўжо справу з дзвюма пятнаццацігадовымі мамамі. Што ўжо тут гаварыць пра курэнне?

**Гутарыла Вольга ЗАЙКІНА.**

Пункт погляду

# І сам павінен быць з вусамі

***У падлеткавы кабінет нашай паліклінікі - заўсёды чарга. Сапраўды, сярод пацыентаў ёсць і хворыя. Але як часта падлеткі весела піхаюць адзін аднаго, жартуюць, абмяркоўваюць: як добра, калі дадуць даведку і не трэба будзе ісці заўтра на гэтую абрыдлую гісторыю. Прычым хворымі іх можна назваць з вялікай нацяжкай.***

Зразумела, мне могуць запярэчыць – не заўсёды па знешняму выгляду можна меркаваць аб здароўі чалавека. Сапраўды, так. І ўсё ж.

Трыццаць гадоў таму назад я хварэла на хранічнае запаленне міндалін. Двойчы мяне накіроўвалі на аперацыю, але неспадзявана падымалася тэмпература. Было вырашана праводзіць лячэнне кансерватыўнымі метадамі. Тры гады запар, падчас летніх канікулаў, на працягу двух-трох тыдняў я наведвала паліклініку. У рэшце рэшт аперацыя не спатрэбілася. Пытанне – ці кожны падлетак сёння будзе хадзіць па аптэках, шукаць патрэбныя лекі для свайго ж лячэння? Ці гэта будзе рабіць маці, бабуля альбо яшчэ хто? Упэўнена, што 80 працэнтаў падлеткаў рабіць гэтага не будуць, будуць скардзіцца на экалогію, радыяцыю і дрэнных настаўнікаў. І працягваць хварэць.

Момант другі... У часы майго дзяцінства мы шмат рухаліся. Нельга сказаць, што кожны мэтанакіравана займаўся спортам, але большасць усё ж наведвала ўрокі фізічнай культуры і выконвала элементарныя практыкаванні.

Безумоўна, не было ў сем'ях павальнага п'янства, пітушчая жанчына была рэдкасцю, але ж і сем'і былі рознага дастатку. І не кожны еў на сняданак бутэрброд з чорнай ікрой.

Што ж атрымліваецца зараз? Зараз здароўе дзяцей – праблема ўлады, бацькоў, урачоў, педагогаў. Але ні ў якім выпадку не саміх дзяцей і падлеткаў. Рэдка хто з іх будзе свядома хадзіць на масаж, лячэбную фізкультуру, фізіятэрапію. На адной з прэс-канферэнцый урач сама адкрыта сказала: "Адпраўляю сына ў краму. І ён заўсёды едзе адзін прыпынак на тралейбусе. Дзе ж будзе ў такім выпадку здароўе?"

Дзяцей з сацыяльна праблемных сем'яў відаць адразу. Адна з прыкмет – брудныя рукі. Але ці трэба дванаццацігадоваму падлетку нечая дапамога ў мыцці рук?

Тэму гэтую можна развіваць бясконца. І ніхто не адмаўляе, што лёс дзіцяці, яго здароўе, характар фарміруюцца ў сям'і. Але калі так здарылася, што трэба плысці ў нейкіх выпадках супраць цячэння, то трэба плысці. Самому.

**Ала ШАЎЦОВА.**



У Жабінкаўскай школе-інтэрнаце для дзяцей са слабым зрокам вучацца 156 выхаванцаў з усіх гарадоў і населеных пунктаў вобласці. У гэтых дзяцей зрок (з карэкцыяй) не перавышае 40 працэнтаў. Сярод вучняў 38 інвалідаў і двое невідушчых. Яны вывучаюць агульнаадукацыйныя прадметы па спецыяльных індывідуальных методыках з дапамогай спецыялістаў-дэфектолагаў.

НА ЗДЫМКУ: як адзначаюць выкладчыкі, у дзяцей са слабым зрокам павышана цяга да цудоўнага. Пяцікласніца Люда Новікава з вёскі Баяры Камянецкага раёна любіць маляваць з дапамогай пластыліну на паперы.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

Акцыя

# Пачатак сяброўства

***Дабрачынная акцыя "Дзецям-сіротам", якую правялі сумесна дзіцяча-юнацкі клуб фізічнай падрыхтоўкі і спорту №25, аддзел адукацыі Партызанскага раёна сталіцы і Мінская гарадская арганізацыя ветэранаў вайны ў Афганістане "Памяць" для выхаванцаў Рудзенскай школы-інтэрната, стала пачаткам сяброўства паміж гэтымі сталічнымі арганізацыямі і інтэрнатаўцамі. Да сустрэчы з дзецьмі, якія па волі лёсу засталіся без бацькоў, на папячэнні дзяржавы, мінчане рыхтаваліся некалькі месяцаў. За гэты час была праведзена вялікая арганізацыйная работа: складзена тэматычная праграма выступленняў удзельнікаў акцыі з паказам дзецям спартыўна-тэатралізаванага канцэрта, сабраны дзіцячыя цацкі, адзенне, кнігі, спартыўны інвентар. Да арганізацыі акцыі ніхто з членаў клуба не застаўся безуважным. Мінскія школьнікі, якія займаюцца ў спартыўных секцыях ДЮКа, можна сказаць, дарылі рудзенскім выхаванцам часцінку сябе, аддаючы ім свае любімыя цацкі і кнігі.***

Калі аўтобус з удзельнікамі акцыі пад'ехаў да параднага ўваходу галоўнага корпуса школы-інтэрната, адразу ж каля яго сабралася дзятва. Гэтых малых навучылі быць ветлівымі – рознагалосае "прывітанне" незнаёмцам, а потым суправаджэнне да самых дзвярэй. Тут так сустракаюць усіх.

Падумаў тады: чым жа гэтая сустрэча так узрушыла мяне? З глыбіні ўзнялося пачуццё сораму, быццам гэта я паслужыў прычынай іх няшчасця. Дзіцячыя вочы сірот – у іх не цікаўнасць, не, а надзея і чаканне. Пасля, калі вечар завяршыўся і трэба было ад'язджаць, дзеці маўчалі, і іх вочы напаўняліся сумам. А яшчэ ж за колькі хвілін да гэтага вучні інтэрната былі ў неапісальным захапленні ад свята, якое ім падарылі сталічныя госці. Горача апладзіравалі выступленню юных артыстаў – спартсменаў тэатра песні і спорту "Дэльта-шоу", кіраўніком якога з'яўляецца Альберт Скараход. Вядомы беларускі спартсмен-спявак і яго тэатр – пастаянныя ўдзельнікі ўсіх спартыўна-прававых вечароў, якія праводзіць ДЮК Партызанскага раёна ў школах сталіцы, прапагандуючы такім чынам сярод школьнікаў здаровы лад жыцця, выхоўваючы любоў да спорту.

Свята мінчан удалося. А калі б хто бачыў, як выхаванцы школы-інтэрната чакалі, калі ім пачнуць уручаць падарункі. Колькі радасці і шчасця ў гэты момант выпраменьвалі іх вочы!

Не выпадкова, напэўна, ДЮК №25 Партызанскага раёна сталіцы ўжо другі год запар з'яўляецца лепшым не толькі ў Мінску, але і ў рэспубліцы, бо тут падабраўся цудоўны трэнерскі калектыў, які ўзначальвае заслужаны трэнер рэспублікі, суддзя міжнароднай катэгорыі М.І.Альпяровіч.

Работа клуба арыентавана пераважна на спартыўна-прававое выхаванне дзяцей, падлеткаў, якія адносяцца да так званай "групы рызыкі". Цяпер у яго секцыях па 17 відах спорту займаецца звыш 2000 школьнікаў, у тым ліку і тых, хто знаходзіцца на пазашкольным уліку і на ўліку камісіі па справах непаўналетніх (каля 500 чалавек). Так што дабрачынная акцыя "Дзецям-сіротам", якую кіраўніцтва клуба правяло для вучняў інтэрната, вучыць падлеткаў яшчэ і міласэрнасці.

Тварыць дабро для блізкага свайго – адзін з хрысціянскіх запаветаў, які, калі ўдумацца, тоіць у сабе простую жыццёвую ісціну – трэба быць добрым чалавекам.

Яшчэ раней, перад канцэртам, дырэктар школы-інтэрната В.Гілеўскі паказаў мінскім гасцям плавальны басейн, які ўведзены ў эксплуатацыю літаральна на пачатку 2002 года. Яго будаўніцтва фінансавалася са спецыяльнага бюджэтнага артыкула згодна з прэзідэнцкай праграмай "Дзеці Беларусі". А летам інтэрнат наведала цэлая дэлегацыя палітыкаў на чале з Міністрам адукацыі. Дэпутаты тады пазнаёміліся з жыццём дзяцей-сірот, уніклі ў інтэрнатаўскія праблемы. Словам, дзяржава, нягледзячы на ўсе цяжкасці, якія перажывае эканоміка краіны, не пакідае без увагі такія вучэбна-выхаваўчыя ўстановы.

І ўсё ж ніякія матэрыяльныя выгоды не заменяць цяпла чалавечага сэрца. Гэта яшчэ раз пацвердзіла акцыя, якую правялі работнікі і выхаванцы ДЮКа, воіны-інтэрнацыяналісты, ветэраны афганскай вайны.

**Аляксей САГАДАШ.**

Праблема

# "Асоба падлетка - даволі гнуткая..."

***Сярэдзіна 90-х гадоў была складаным перыядам у эканоміцы. Безграшоўе, алкагалізацыя, наркаманія ў сем'ях прывялі да таго, што рэзка пагоршылася псіхічнае здароўе дзяцей, і асабліва падлеткаў.***

Гэта не магло, ды і не павінна было застацца незаўважаным ва ўладных структурах. У 1996 годзе было прынята рашэнне аб адкрыцці дзіцяча-падлеткавага псіханеўралагічнага дыспансера ў Мінску.

Вядома, пачынаць з нуля новую справу заўсёды складана. Як гаворыць галоўны ўрач Уладзімір Васільевіч Парфянкоў, на былы Савецкі Саюз такіх устаноў было раз-два і палічыў. І перш за ўсё трэба было змяніць псіхалогію бацькоў - не кожны хацеў выносіць смецце з хаты. А тым не менш нейкія нязначныя функцыянальныя парушэнні перараслі ў сур'ёзную паталогію...

***

Сёння ў дыспансеры некалькі аддзяленняў - амбулаторна-паліклінічнае, псіхатэрапеўтычнае, арганізацыйна-метадычная служба, псіхалагічная лабараторыя. Круглыя суткі працуе тэлефон даверу - 2-15-00-00. Штогод па гэтаму нумару тэлефануюць 15-16 тысяч падлеткаў. І хто ведае, можа, тэлефонны званок некаму выратаваў жыццё. Ва ўсякім выпадку, гаворачы медыцынскай мовай, колькасць незавершаных суіцыдаў знізілася за тры апошнія гады больш чым у два разы. У мінулым годзе іх было дзевяноста дзевяць. Гэта ўсё роўна нямала.

***

У псіхіятрыі існуюць такія паняцці як вялікая псіхіятрыя і пагранічная псіхіятрыя. Сярод псіхічна хворых 15-16 працэнтаў - гэта падлеткі з вялікай разумовай адсталасцю, якая набліжаецца да інваліднасці. У астатніх выпадках - пагранічная паталогія. Цікава, што 90 працэнтаў непаўналетніх правапарушальнікаў маюць тую або іншую паталогію. Гаворачы іншымі словамі, калі падлетак зрывае ўрок настаўніку, не выключана, што ён не зусім здаровы. І, на жаль, колькасць правапарушэнняў павялічваецца.

Другая вострая праблема - завершаныя і незавершаныя суіцыды. На жаль, у 2001 годзе пайшлі з жыцця ў сталіцы 9 падлеткаў. 99 - рабілі спробы, у асноўным, атручанні. Увогуле, Уладзімір Васільевіч сцвярджае, што дзіцячая псіхалогія мае свае асаблівасці. Спроба самагубства - гэта крык душы, жаданне звярнуць на сябе ўвагу, заяўка пра сваю адзіноту ў гэтым жорсткім свеце.

***

На думку псіхіятраў, суіцыдальныя спробы - не заўсёды доля дзяцей з цяжкіх сем'яў. Справа тут у асаблівасцях характару дзіцяці, непаладках у эмацыянальна-валявой сферы. Ва ўсякім выпадку, нельга адназначна сцвярджаць, што дзіця атрымала ў школе двойку - і скончыла жыццё самагубствам.

***

Увогуле, апошнім часам псіхіятрыя зрабіла вялікі крок наперад. І побач з медыкаментозным лячэннем, якое ні ў якім выпадку не трэба ігнараваць, ёсць шмат іншых метадаў - і фізіятэрапія, і лячэбная фізкультура, і карэкцыйная работа, і дыялогі з псіхатэрапеўтам. Нават сама атмасфера псіханеўралагічнага дыспансера з вялікай колькасцю пакаёвых раслін, чысціня, добразычлівыя адносіны ўсяго персаналу, пачынаючы з санітарак, спрыяюць лячэнню.

***

Цікава было даведацца ад Уладзіміра Васільевіча пра яго стаўленне да перамен у адукацыйнай сістэме. Многія ўрачы неадназначна ставяцца да школьных перагрузак, лічаць, што яны адмоўна адбіваюцца на здароўі.

Уладзімір Васільевіч лічыць, што псіхіка дзіцяці і падлетка - даволі гнуткая, і яна падрыхтавана да перамен. Сёння нельга абысціся без камп'ютэра, без замежных моў, без грунтоўных ведаў па іншых прадметах.

Справа ў тым, што дарослыя (настаўнікі і бацькі) павінны паважаць дзіцячую асобу, прыслухоўвацца да меркаванняў дзіцяці, вельмі тактоўна на яго ўплываць. Тады і перагрузкі будуць не такія страшныя.

***

У адным з кабінетаў дзіцяча-падлеткавага псіханеўралагічнага дыспансера прымае ўрач-нарколаг. Хваробы псіхічныя і алкагольныя карэнным чынам звязаны. Няўстойлівая псіхіка спрыяе захворванню алкагалізмам, і алкагалізм, у сваю чаргу, робіць адмоўны ўплыў на псіхіку. Хоць хваробы залежнасці - гэта ў большасці сваёй хваробы сацыяльныя.

***

Увогуле, візіт да ўрача-псіхіятра можа перавярнуць дзіцяці жыццё, зрабіць больш пазітыўнай яго пазіцыю. І яго бацькоў. Вопытны псіхіятр можа паставіць дыягназ нават візуальна. Вядома, патрэбны сур'ёзнае абследаванне, іншыя аналізы, але гэта ўжо вызначае ўрач у працэсе размовы.

***

Псіханеўралагічная служба ў горадзе Мінску - дэцэнтралізаваная. Гэта значыць, што псіхіятр, псіхолаг і псіхатэрапеўт вядуць прыём у кожнай дзіцячай паліклініцы. А потым ужо, калі патрэбна больш грунтоўная дапамога, накіроўваюць пацыента ў гарадскі дыспансер. І тут лячэнне праводзіцца па апошняму слову навукі. Рэаліі жыцця такія, што дзяцей нараджаецца ўсё менш, а паталогій, на жаль, усё больш. Такім чынам, ставіцца мэта - зберагчы здароўе тых дзяцей, што ёсць.

***

Крыху пра ўлік. Тут ён некалькіх відаў - дыспансерны, кансультатыўны, пазагрупавы. Бывае, што камусьці дапаможа адна-адзіная кансультацыя, нехта лечыцца гадамі. Тых, хто папраўіўся, з уліку здымаюць. Так, у 2001 годзе зняты 1.111 чалавек. І пячатку на ўсё жыццё ставіць тут ніхто не будзе.

Кансультатыўная дапамога аказваецца хворым дзецям з усёй рэспублікі. Іншая справа, што не заўсёды бацькі маюць матэрыяльныя магчымасці даехаць да сталіцы.

***

Дзіцячая псіхіятрыя карэнным чынам адрозніваецца ад псіхіятрыі дарослай. Тут менш цяжкіх хворых, сацыяльна небяспечных паталогій, незваротных станаў.

І зусім неабавязкова, што дзіцячая паталогія перарасце ў невылечную хваробу ў далейшым. Куды горш, калі псіхічныя адхіленні ў здароўі дзіцяці перашкодзяць яму пабудаваць свой лёс, прывядуць яго ў турму альбо...

Так, мы не выбіраем час, у якім жывем. І тым больш яго не выбіраюць нашы дзеці. Але ад нас залежыць, каб мы своечасова заўважылі нейкія праблемы ў сваіх нашчадкаў і знайшлі момант спытаць: "Што з табой?"

**Ала ШАЎЦОВА.**

Меркаванне

# Сваё заўтра ствараем сёння

***Даўно збіралася напісаць пра стаўленне да старых і пажылых людзей, але нешта перашкаджала. А тут нядаўна ў электрычцы разгаварылася з жанчынай. Яна са слязамі расказала, як "выбівала" накіраванне для сваёй старэнькай мамы ў Інстытут анкалогіі. Накіравання яна дабілася, але чаго ёй каштавала пакласці маму туды на лячэнне! Галоўная прычына адмовы - узрост. Гэтая старая жанчына перажыла вайну, выгадавала дзяцей, большую частку жыцця адпрацавала ў калгасе. І вось... Калі ўжо медыкі так адносяцца, то што гаварыць пра астатніх!***

Заходжу ў аўтобус №5 на Савецкай. Народу многа, перада мной з цяжкасцю падняўся па прыступках пажылы мужчына. На сядзенні, якое ў аўтобусе павернута да дзвярэй, сядзяць жанчына і дзяўчынка гадоў 14-15. Дзяўчынка хутка ўстала і сказала гэтаму чалавеку: "Сядайце". Аднак раптам яе маці закрычала на ўвесь аўтобус: "Сядзі! Стары дома насядзеўся, хай пастаіць". Дзяўчынка вельмі збянтэжылася. Пажылы чалавек сеў на прапанаванае месца. Праз праход адгукнулася яшчэ адна цётка. Яна таксама лічыла, што стары мог бы і пастаяць. Я ўважліва пагледзела на гэтых жанчын. Абедзвюм ужо за сорак. Хутка і ім будзе цяжка стаяць у аўтобусе. Якую ж старасць яны сабе рыхтуюць?

Нядаўна адзін пенсіянер расказаў мне, што сын яго суседзяў пастаянна праклінае пенсіянераў: "Грошы дарам атрымліваюць, кватэры займаюць" і г.д. Яму і ў галаву не прыходзіць, што тыя самыя кватэры ды і многае іншае пабудавалі людзі, якіх ён кляне.

Цікава, што ўсе на каго-небудзь скардзяцца. Медыкі незадаволены настаўнікамі, тыя – прадаўцамі і будаўнікамі, а прадаўцы лаюць вадзіцеляў аўтобусаў. Апошнія, у сваю чаргу, сварацца на пасажыраў, гэта значыць на ўсіх нас. Усе мы лаем чыноўнікаў усіх кантор, у якія даводзіцца звяртацца, а чыноўнікі незадаволены і ўрачамі, і настаўнікамі, і да сябе падобнымі. Усеагульнае незадавальненне выклікае агрэсію на побытавым узроўні. А пакутуюць ад яе самыя слабыя: дзеці і старыя. Стаўленне да дзяцей яшчэ неяк рэгламентуецца і кантралюецца, а вось пажылым людзям даводзіцца самім спраўляцца са сваімі праблемамі.

Старэйшае пакаленне нярэдка само фарміруе няправільныя адносіны да сябе.

Яшчэ адзін эпізод у транспарце.

У аўтобус уваходзіць пажылы чалавек. Ніхто не варухнуўся, каб саступіць яму месца. На наступным прыпынку ўвайшла жанчына з дзіцем гадоў шасці. Нехта ўстаў і прапанаваў месца. Жанчына ветліва адмовілася і прапанавала гэтае месца пажылому мужчыну. Той замітусіўся і разгубіўся: "Што вы! Гэтае ж месца для дзіцяці саступілі". І раптам жанчына сказала: "Калі мой сын будзе сядзець, а вы або я стаяць, ён ніколі не вырасце мужчынам". На жаль, такі эпізод я бачыла толькі аднойчы. Часцей жа, наадварот.

Апраўданая і неапраўданая ахвярнасць – усё для дзяцей, унукаў. Сабе горшае, таннейшае, а то і зусім нічога.

Нядаўна ў чарзе да зубнога ўрача пачула такую скаргу:

– Рукі, ногі баляць – няма сіл. Учора ездзіла да сына ў Мінск. Адвезла дзве сумкі як падняць. А яны з нявесткай незадаволеныя. Ім не трэба. Кансерваваць не хочуць, захоўваць няма дзе, ды і няма калі. Абодва працуюць, зарабляюць няблага. Кажуць, што ўсё могуць купіць. Напэўна, не з'ядуць усё, выкінуць або суседзям аддадуць.

– Дык навошта вы везлі?

– А куды дзяваць? Агуркі, перцы выраслі добрыя, усе слоікі заняла, ды і пазамінулагоднія яшчэ поўныя стаяць. Шмат я ў Мінск не завязу, а самі не хочуць вазіць.

– Ну, дык прадайце гародніну, а на гэтыя грошы купіце сабе што-небудзь.

– Што вы! Сорамна! У мяне сын, унук, а я на сябе траціць буду.

Сапраўды, у кожнай сям'і бываюць перыяды, калі патрабуюцца дапамога і падтрымка старэйшых, але не ўсё ж жыццё. Неяк трэба навучыцца і самім сябе забяспечваць.

Адна маладая настаўніца сказала мне:

– Ну што вам ужо трэба ў вашым узросце?

Я ёй адказала:

– Менавіта ў маім узросце мне многае трэба. Я працавала з 17 гадоў. Працавала, вучылася, гадавала дзяцей, большая частка жыцця прайшла пры пастаянным дэфіцыце таго або іншага, хварэлі дзеці і блізкія, восем месяцаў у год усе выхадныя на садовым участку. Усё, як у большасці людзей. У выніку – шматлікія хваробы. Патрэбны добрыя лекі мне і мужу, а яны дарагія. Перыядычнае лячэнне ў мануальнага тэрапеўта – задавальненне не з танных, але хворая спіна прымушае гэта рабіць. Патрэбен зручны абутак, а ён дарагі. Патрэбна вопратка, каб выглядаць больш-менш прыстойна. У 25 гадоў я ўмела добра выглядаць у самым танным адзенні. Цяпер усё інакш: трэба даглядаць твар, рацыянальна есці, дорага каштуе падпіска на газеты і часопісы. А кнігі! І многае іншае. Хіба я не маю рацыі?

– Так, я згодна з вамі. Я неяк пра гэта не задумвалася. Я раскажу пра нашу размову сваім бацькам.

Усе мы любім сваіх дзяцей і ўнукаў. Але наша жыццё мае каштоўнасць само па сабе. Яно ідзе к канцу. І хаця пенсіі і рэаліі нашага жыцця пакідаюць жадаць лепшага, я мяркую, што і самі мы можам што-небудзь зрабіць для саміх сябе: не апускацца, даглядаць сябе па магчымасці, радавацца кожнай прыемнай падзеі не толькі ў сваёй, але і ў чужой сям'і. Паважаць права блізкіх на ўласную думку і захоўваць незалежнасць ад чужых меркаванняў і замахаў на наш час і сілы. Кожны выбірае свой стыль жыцця, але павагу да старасці не выхаваеш крыкамі і скаргамі. Толькі ўласнае ўменне "з годнасцю несці свой узрост" прымушае людзей лічыцца з гэтым узростам.

А грамадства наша яшчэ доўга будзе "хварэць" на пагарду да старасці. Але жорсткасць – яна як бумеранг. Вернецца да тых, хто яе праяўляе. А старымі бываюць усе, акрамя тых, хто рана памірае. Вядома, той урач, які не хацеў накіраваць старую жанчыну на лячэнне, або той сусед пенсіянера могуць і не дажыць да старасці. Але ў іх будуць іншыя цяжкія праблемы. Бо жыццё нікога не песціць. І ім таксама спатрэбяцца чалавечая спагада і дапамога. Але ці будуць ахвотнікі ім дапамагчы?

Сваё заўтра мы ствараем сёння.

**Аляксандра САБАЛЕЎСКАЯ.**

Жодзіна.

# Сем інтэлектаў па Гарднеру,
## альбо Пра школу, якая развівае і развіваецца

***Традыцыйная адукацыя, арыентаваная на утылітарна-прагматычныя мэты авалодання ведамі, уменнямі і навыкамі, не адпавядае эканамічным і сацыяльным умовам сённяшняга дня. Час патрабуе новай школы. Педагагічны калектыў сярэдняй школы №10 Брэста з архітэктурна-мастацкім ухілам пераасэнсаваў каштоўнасці, назапашаныя сусветнай педагагічнай практыкай, ацаніў свае прафесійныя магчымасці як стабільныя і працуе сёння над стварэннем сваёй школьнай сістэмы навучання і выхавання.***

Галоўны прыярытэт у нашай рабоце – асоба вучня, якая фарміруецца праз сумесную педагагічную дзейнасць: настаўнік – вучань – бацькі. Сістэма грунтуецца на педагагічнай канцэпцыі філосафа Г.Гарднера. Ён увёў паняцце "множнасці інтэлекту", маючы на ўвазе разнастайнасць шляхоў, якімі чалавек успрымае і апрацоўвае інфармацыю, пазнае свет. Ён выдзеліў сем відаў інтэлекту:

вербальна-лінгвістычны, звязаны са словам і мовай (пісьмовай і размоўнай);

логіка-матэматычны, які мае справу з дэдуктыўным мысленнем лічбамі, абстрактнымі сімваламі;

унутрыасобасны, які ўключае ў сябе самарэфлексію, метапазнанне, усведамленне духоўнай рэальнасці, унутранага стану "Я";

міжасобасны, які працуе галоўным чынам праз узаеміны, усталяванне сувязяў паміж людзьмі;

візуальна-прасторавы, які дазваляе ўбачыць аб'ект і стварыць яго ўнутраны вобраз (карціну);

цялесна-кінестэтычны, які мае справу з фізічным рухам і пазнаннем цела, уключае механізм мозга, кантралюе рухі цела;

музычна-рытмічны, які ўключае ў сябе разуменне меладычных вобразаў і пачуцця рытму.

Яны выступаюць як аб'ект сумеснай дзейнасці вучня і настаўніка, мэтай якога з'яўляецца выхаванне цэласнай, творчай, сацыяльна самастойнай, свабоднай асобы.

Інтэлект, паводле Г.Гарднера, не зводзіцца толькі да абстрактна-лагічнага пазнання. Ён – шматмерны і многакампанентны феномен, які праяўляецца на мностве ўзроўняў нашай мозга-разумова-цялеснай сістэмы. Таму змест педагагічнага працэсу павінен ахопліваць (актуалізаваць і развіваць) усе віды інтэлекту.

"Множнасць інтэлектаў" у педагагічным працэсе:




Усе названыя віды інтэлекту ахопліваюць не толькі інтэлектуальную, але і эмацыянальна-валявую сферу чалавечай псіхікі, якая развівае і фарміруе гарманічную асобу. Як паказалі даследаванні, чалавек у той або іншай меры валодае ўсімі пералічанымі інтэлектамі, тады як **традыцыйная педагогіка развівае пераважна вербальна-лінгвістычны і логіка-матэматычны інтэлекты.** Таму прызначэнне нашай сістэмы – актуалізаваць і развіваць усе віды інтэлекту вучняў для найбольш поўнага пазнання рэчаіснасці ў шырокім сэнсе слова праз мэтанакіраванае ўключэнне ў педагагічны працэс разумовага, эстэтычнага і фізічнага выхавання.

Урочная дзейнасць наладжана ў школе праз выкарыстанне настаўнікамі новых педагагічных тэхналогій і іх элементаў, аўтарскіх праграм і творчых майстэрняў. У нас працуе эксперыментальная пляцоўка па сацыяльна-тэхналагічнай мадэлі школьна-сямейнага выхавання "Арыенцір" (два класы пачатковай школы) і індывідуальна-групавому навучанню па адукацыйнай мадэлі "Крок за крокам".

Эстэтычны цыкл у школе надзвычай моцны. Прадметы выкладаюць настаўнікі, педагагічны патэнцыял якіх вельмі высокі. У асноўным гэта настаўнікі прадметаў архітэктурна-мастацкага ўхілу (45 чалавек). Сярод іх ёсць заслужаны настаўнік Беларусі, члены Саюза маладых мастакоў, майстар па кераміцы і ганчарству, мастак-графік, скульптар, архітэктары. Гэта дазволіла нам стварыць цэнтр па развіццю візуальна-прасторавага інтэлекту вучняў.

У рамках вучэбна-выхаваўчага працэсу з архітэктурна-мастацкім ухілам дзеці з шасцігадовага ўзросту (а гэта 522 чалавекі) вывучаюць асновы выяўленчай граматы па малюнку, жывапісу, кампазіцыі, графіцы, скульптуры, перспектыве, пластычнай анатоміі, дызайну, мастацкай апрацоўцы металу, кераміцы, вышыўцы, ткацтву, роспісу тканін (батык), сусветнай мастацкай культуры.

На базе школы працуе праблемны семінар, які дазваляе кожнаму настаўніку прыняць актыўны ўдзел у абмеркаванні і ўдасканаленні эксперыментальных вучэбных праграм па асобных дысцыплінах, дапамагае хуткаму ўкараненню ў практыку перадавога вопыту асобных педагогаў. За апошні час распрацаваны і ўкаранёны ў практыку новы блок аўтарскіх вучэбных праграм па наступных дысцыплінах: "Чарчэнне" (9 клас), "Агоўскі роспіс" (7 клас), "Дэкаратыўны друк" (6 клас), "Графіка" (10 клас), "Асновы керамікі"(9 клас), "Архітэктурны дызайн" (8 клас), "Мастак-афарміцель" (9-11 класы), "Асновы камп'ютэрнай графікі" (10 клас), "Мяккая цацка" (7 клас).

Знаёмства з рознымі мастацкімі тэхнікамі, штотыднёвыя кансультацыі педагогаў-куратараў, абавязковыя прагляды (кожную чвэрць) мастацкім саветам творчасці вучняў, творчыя справаздачы-выстаўкі (як групавыя, так і персанальныя) старшакласнікаў і выкладчыкаў ствараюць камфортныя ўмовы для творчай актыўнасці, развіцця візуальна-прасторавага мыслення, стымулююць эмацыянальную сферу і ўяўленне, уменне выкарыстоўваць патэнцыял падсвядомасці дзяцей.

Працуючы ў творчых майстэрнях, удзельнічаючы ў сумеснай з педагогамі дзейнасці, вучні маюць магчымасць не толькі авалодаць адпаведным майстэрствам, але і ўдасканальваць усе сем інтэлектаў.

Высокім патэнцыялам па выхаванню нацыянальнай самасвядомасці і культуры, грамадзянскай сталасці і любові да сваёй Бацькаўшчыны валодаюць такія раздзелы праграмы як агоўскі роспіс, разьба па дрэве, саломапляценне. Дзякуючы шчырай цікавасці да народнай творчасці педагогам і вучням удалося адрадзіць традыцыйны від народнага мастацтва Брэстчыны – выцінанку, раскрыць сакрэт страчанай (забытай) методыкі вырабу чорна-глянцаванай керамікі. Прапаганда вопыту школы, даступнасць матэрыялу і прастата тэхнікі выканання, высокія дэкаратыўныя якасці вырабаў дазволілі ўвесці выцінанку ў праграмы 12-гадовай агульнаадукацыйнай школы нашай краіны.

Вучні школы пастаянна перамагаюць у абласных алімпіядах па выяўленчаму мастацтву, актыўна ўдзельнічаюць у абласных і рэспубліканскіх выстаўках дзіцячай творчасці. Работы адзначаны 46 медалямі, экспанаваліся на міжнародных выстаўках у ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі, Партугаліі, Нідэрландах, Германіі, Расіі і іншых краінах. Як правіла, выпускнікі спецкласаў звязваюць сваю будучыню з мастацтвам і архітэктурай. Дзесяць настаўнікаў прадметаў архітэктурна-мастацкага цыкла – былыя вучні школы. Выпускнікі-мастакі выкладаюць у ВНУ, вядуць студыі выяўленчага мастацтва, працуюць у тэатры, вызначаюць дызайн прадпрыемстваў, паляпшаюць аблічча горада. Гэта яны аздобілі скульптурным рэльефам Абласны тэатр драмы і музыкі, вывелі прадукцыю газаапарата ў галіне дызайну на еўрапейскі ўзровень (С.Крывецкі і С.Пушкоў). Выпускнік школы А.Паўлючук выканаў скульптурную групу мемарыяльнага комплексу ў скверы пагранічнікаў, адкрытым у маі 2001 г. Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкам і Патрыярхам Маскоўскім і Усяе Русі Алексіем II.

Творчая група настаўнікаў фізкультуры (10 чалавек) на спецыяльна рэканструяванай спартыўнай базе школы стварыла цэнтр фізічнага выхавання, закліканы развіваць цялесна-кінестэтычны і музычна-рытмічны інтэлекты.

Належныя ўмовы дазволілі рэарганізаваць і сам вучэбна-выхаваўчы працэс, падпарадкаваць яго мэты задачам сістэмы школы па развіцці цялесна-кінестэтычнага і музычна-рытмічнага інтэлекту вучняў. Тры гады школа працуе па сістэме аб'яднання класаў з улікам полу, гэта значыць аб'ядноўваюцца два класы з паралелі на ўроку фізкультуры ў дзве групы: юнакі і дзяўчаты. Групу юнакоў, сфарміраваную з двух класаў, вядзе настаўнік-мужчына, групу дзяўчат – настаўнік-жанчына.

Аналіз работы па такой схеме паказаў наступныя перавагі. Па-першае, можна больш рацыянальна выкарыстоўваць спартыўную базу, па-другое, павялічылася цікавасць вучняў да ўрокаў фізкультуры, і па-трэцяе – знік элемент закамплексаванасці перад прадстаўнікамі процілеглага полу, што спрыяе найбольш поўнаму ўключэнню механізма мозга, які кантралюе рух цела.

Рэфармавана і традыцыйная сістэма арганізацыі заняткаў спецмедгруп (СМГ), калі заняткі вынесены за сетку раскладу. Творча пераасэнсаваўшы сітуацыю, настаўнікі фізкультуры перайшлі на дыферэнцыяванае трохузроўневае навучанне, калі на ўроку настаўнік працуе з трыма групамі вучняў у залежнасці ад медыцынскіх паказчыкаў (асноўная, падрыхтоўчая, спецыяльная). Безумоўна, павышаецца адказнасць настаўніка за падрыхтоўку ўрока, але карысць гэтага новаўвядзення – відавочная. Гэта: эканомія бюджэтных сродкаў; змяншэнне занятасці вучняў спецмедгруп у пазаўрочны час; максімальнае выкарыстанне вучэбнага часу; выхаванне ў вучняў цярпімасці, гуманнасці, пачуцця павагі да людзей з фізічнымі недахопамі.

Для максімальнага выкарыстання магчымасцей спартыўнай базы заняткі па фізкультуры арганізуюцца такім чынам, што на працягу тыдня кожны клас адзін урок праводзіць у вялікай спартыўнай зале (гульневай), на другім уроку юнакі займаюцца ў трэнажорнай зале, дзяўчаты – у гімнастычнай, трэці ўрок – у басейне. Для вучняў спецкласаў з архітэктурна-мастацкім ухілам створаны дадатковыя групы па свабоднаму плаванню, праводзяцца заняткі ў трэнажорнай зале. Трэба адзначыць, што сумесныя намаганні вучнёўскага і настаўніцкага калектыву ў гэтым напрамку далі станоўчыя вынікі, што выявілася ў зніжэнні агульнай захворваемасці школьнікаў і ў высокіх паказчыках у гарадскіх спаборніцтвах.

Будучы састаўной часткай педагагічнага працэсу, пазакласная і пазашкольная выхаваўчая работа накіравана на стварэнне ўмоў для развіцця і самаразвіцця суб'ектаў выхавання, дзе асоба вучня выступае як самакаштоўнасць. Рэалізацыя асобасна арыентаванага падыходу ў выхаванні садзейнічае абуджэнню "множнасці інтэлектаў" кожнага ўдзельніка гэтага працэсу.

У выхаванні асобы вялікая ўвага ўдзяляецца развіццю дзіцячага самакіравання.

Асаблівая роля надаецца і дзіцячым арганізацыям. У школе працуе самая вялікая ў горадзе піянерская арганізацыя (6-11 кл.), "Нашчадкі" (2-4 кл.) і "Самацвецікі" (падрыхтоўчыя-першыя класы). Калі дзве першыя арганізацыі з'яўляюцца рэспубліканскімі, то дзіцячае аб'яднанне "Самацвецікі" – педагагічная знаходка арганізатараў пазаўрочнай дзейнасці вучняў. Распрацаваны і выдадзены метадычныя дапаможнікі па арганізацыі дзейнасці аб'яднання "Самацвецікі", "Нашчадкі", піянерскай арганізацыі.

Эфектыўнасць педагагічнага працэсу, які склаўся ў школе, пацвярджаецца ў мерапрыемствах, што праводзяцца на базе школы: рэспубліканская вучэбна-метадычная канферэнцыя па пытаннях пераемнасці выкладання спецыяльных дысцыплін у школах з паглыбленым вывучэннем выяўленчага мастацтва і архітэктуры (1998 г.); рэспубліканскі семінар "Асноўныя напрамкі ўдасканалення работы па выхаванню грамадзянскасці і патрыятызму ў вучняў ва ўмовах рэфармавання сістэмы адукацыі" (1999 г.); абласны семінар "Роля вучэбна-спартыўнай базы ў развіцці фізічных магчымасцей школьнікаў і фарміраванні здаровага ладу жыцця" (1999 г.); гарадскі семінар "Самарэалізацыя вучняў праз удзел у дзіцячых аб'яднаннях" (2001 г.).

Напрыканцы трэба адзначыць, што выхаванне творчай, сацыяльна самастойнай, свабоднай асобы адпавядае патрабаванням сённяшняга дня. Гэта выразна акрэслена ў прамове А.Р.Лукашэнкі на цырымоніі ўступлення на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дзе сказана, што "...нам, усім людзям Беларусі, якія хочуць жыць у квітнеючай, моцнай дзяржаве, неабходна ведаць: думаць пра сябе, пра сваю сям'ю, дабрабыт вы павінны самі... Толькі сваёй працай... мы можам стварыць годнае жыццё для сябе ". Мы лічым, што наш калектыў на правільным шляху.

**Людміла АРЛОВА,**
**дырэктар сярэдняй школы №10 Брэста.**

# Яшчэ Сакрат вучыў маўчаць і слухаць

***Амерыканскія даследчыкі сцвярджаюць, што чалавек у сучасным грамадстве, каб адпавядаць яго патрабаванням, павінен змяніць род дзейнасці не менш як сем разоў за сваё жыццё. Для таго каб адпавядаць гэтым стандартам, Святлане Уладзіміраўне Радзьковай засталося зусім нямнога...***

***Яшчэ вучаніцай яна не ўяўляла сваёй будучыні без школы, таму паступленне ў пединстытут на дэфекталагічны факультэт было радаснай падзеяй у яе жыцці. Пасля заканчэння - праца па размеркаванні ў Оршы лагапедам у школе №19. Наступнае месца працы даволі нетрадыцыйнае - вадзіцель трамвая. Затое - перспектыва пераехаць у Мінск і прадоўжыць творчае жыццё ў клубе аўтарскай песні "Ветразь".***

***Наступная прыступка - спроба пранікнуць у новы для сябе свет глухіх людзей. Гэта пяць гадоў працы з дзецьмі са слабым слыхам у школе-інтэрнаце №13. Цікавасць да псіхалогіі прывяла Святлану Уладзіміраўну зноў за студэнцкую парту. Яшчэ будучы студэнткай, атрымала прапанову распрацаваць праграму па псіхалогіі для сёмага класа Мінскай педагагічнай гімназіі №3 і выкладаць гэты курс. Пасля заканчэння курсаў па спецыяльнасці "Практычная псіхалогія" ў Мінскім інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі паспяхова і з ахвотай працуе псіхолагам у педагагічнай гімназіі №3, з'яўляецца малодшым навуковым супрацоўнікам МДПУ імя М.Танка. У кастрычніку гэтага навучальнага года прыняла ўдзел у Міжнародным конкурсе педагогаў у Артэку.***

**Тэма:** Слуханне як від маўленчай дзейнасці.

**Мэта:** Фарміраванне навыкаў эфектыўнага слухання.

**Ведаць:** паняцце слухання як від маўленчай дзейнасці; віды слухання; шляхі павышэння эфектыўнасці слухання.

**Умець:** актуалізаваць асабісты вопыт слухача; усведамляць ролю слухача ва ўзаемінах; актыўна слухаць.

**Ключавыя словы:** слуханне, маўленчая дзейнасць, крытычнае слуханне, эмпатычнае слуханне, актыўнае слуханне.

**Абсталяванне ўрока:** рознакаляровая папера фармату А4 (па 2 аркушы на кожнага вучня), папяровыя квадрацікі для самаацэнкі, бланкі з тэстам (для кожнага вучня адзін бланк), "касмічныя" малюнкі, фламастэры, скотч, дошка, крэйда.

**Ход урока:**

Настаўнік: Да Сакрата ў Афіны здалёк прыехаў малады чалавек, які гарэў жаданнем авалодаць мастацтвам красамоўства, узаемін. Пагаварыўшы з ім некалькі хвілін, Сакрат запатрабаваў ад вучня двайную плату за навучанне. "Чаму?" – спытаў здзіўлены вучань. "Таму, – адказаў філосаф, – што мне давядзецца вучыць цябе не толькі гаварыць, але і таму, як трэба маўчаць і слухаць".

У гісторыі, якую я вам расказала, названы віды маўленчай дзейнасці. Гэта гаварэнне і слуханне. Выдзяляюць чатыры віды маўленчай дзейнасці. Якія б віды вы дабавілі да двух названых? (Адказы вучняў.) Правільна. Чытанне і пісьмо.

Чытанне, пісьмо, гаварэнне, слуханне. Паглядзіце на гэты спіс і падумайце, якому віду дзейнасці не пашанцавала больш за ўсё, чаму з гэтага спісу вас менш за ўсё вучылі. (Выслухоўваюцца адказы дзяцей.) Згодна – слуханню. Вучоныя падлічылі, што з часу, неабходнага для ўзаемін, мы 9 працэнтаў трацім на пісьмо, 16 – на чытанне, 30 – на гаварэнне і 45 працэнтаў – на слуханне. Як вы думаеце, ці важна вучыцца эфектыўна слухаць?

Сёння мы з вамі будзем вучыцца правільна слухаць. Для таго каб умець эфектыўна слухаць, неабходна ведаць:

1. Якія бываюць віды слухання, чым яны адрозніваюцца адзін ад аднаго.

2. Ведаць правілы слухання і старацца іх прытрымлівацца.

3. Ведаць свае вартасці і недахопы як слухача.

Гэтыя тры пункты – наш план работы на сённяшні ўрок па авалоданню навыкамі слухання. Мы пазнаёмімся з ***крытычным і эмпатычным*** слуханнем. Вынік кожнага з названых відаў слухання адзін і той жа – разуменне таго, хто гаворыць. А вось шляхі яго дасягнення розныя. Слухач крытычны спачатку ацэньвае інфармацыю, правярае і толькі потым прымае, разумее. Слухач эмпатычны прымае, спачувае і толькі потым ацэньвае. Выбіраюць від слухання ў залежнасці ад жыццёвай сітуацыі. Напрыклад, у гутарцы з сябрам лепш слухаць эмпатычна, а экзаменатару лепш слухаць крытычна.

Эмпатычнае слуханне можа быць пасіўным і актыўным. Калі мы слухаем пасіўна, мы стрыманыя, неэмацыянальныя, не задаем пытанняў, не падводзім вынікаў пачутага. Актыўнае слуханне прадугледжвае ўлік эмоцый субяседніка, адлюстраванне іх, спачуванне, пытанні, удакладненні, рэзюміраванне.

**Гульня "Касмічны рэпартаж"** дазволіць вам адчуць розніцу паміж пасіўным і актыўным відамі слухання і выбраць жыццёвыя сітуацыі для іх прымянення.

Клас падзяляецца на дзве каманды. Вучні, якія сядзяць злева, – удзельнікі касмічнай экспедыцыі, што выявіла на адной планеце невядомыя наскальныя малюнкі і спрабуе перадаць іх на зямлю. Але адзэасувязь парушана, ёсць толькі радыёсувязь, і толькі аднабаковая – з карабля на зямлю. Вучні, якія сядзяць справа, – дыспетчары цэнтра кіравання палётам, яны прымаюць паведамленні ў рэжыме пасіўнага слухання і малююць відарысы са слоў удзельнікаў касмічнай экспедыцыі. Потым яны мяняюцца ролямі. Удзельнікі экспедыцыі становяцца дыспетчарамі, дыспетчары ЦКП – касманаўтамі. Касманаўты перадаюць іншыя малюнкі, дыспетчары іх прымаюць, але ў рэжыме актыўнага слухання. Малюнкі папарна вывешваюцца на дошцы. Параўноўваецца дакладнасць адлюстравання ў кожным рэжыме і камфортнасць узаемін у кожным выпадку.

**Пытанні для абмеркавання:** Параўнайце малюнкі. Чаму яны атрымаліся розныя? Што дапамагала ў рабоце? Што перашкаджала? Якія пачуцці вы адчувалі адзін да аднаго?

Настаўнік: Дзеці, вы заўважылі, што малюнак атрымаўся больш дакладным, калі вы слухалі актыўна і маглі ўдакладняць, задаваць пытанні, праяўляць эмоцыі. У сітуацыі актыўнага слухання вы адчувалі сябе больш камфортна. Ці азначае гэта, што пасіўнае слуханне не трэба выкарыстоўваць?

Пасіўнае слуханне дарэчы ў гутарцы з чалавекам, які проста хоча выгаварыцца, з чалавекам сарамлівым, замкнёным.



Наступны пункт нашага плана прадугледжвае самаацэнку і вывучэнне сябе як слухача. Вазьміце каляровыя алоўкі і выстаўце сабе ацэнку як слухачу. Выбірайце з трох варыянтаў:

ДС – добры слухач;

ВС – выдатны слухач;

РС – слухач, які развіваецца.

Падліковая камісія, збярыце, калі ласка, лісточкі з ацэнкамі, апрацуйце даныя і занясіце ў табліцу.

Такім чынам, у нас у класе, на вашу думку, добрых слухачоў...., выдатных слухачоў..., слухачоў, якія развіваюцца....

Цяпер вам прадаставіцца магчымасць ацаніць сябе як слухача больш аб'ектыўна. Я прапаную вам адказаць на пытанні тэста **"Ці ўмееце вы слухаць і чуць?"**

1. Я часта з нецярплівасцю чакаю, калі субяседнік скончыць гаварыць, каб выказацца самому.

2. Часам я прапаную вырашэнне праблемы да таго, як яна прадстаўлена поўнасцю.

3. Я люблю слухаць тое, што прыносіць мне задавальненне.

4. Бывае, што я страчваю ўвагу, губляю ніць разважанняў, калі гавораць іншыя.

5. Часам эмоцыі, якія перапаўняюць мяне, ускладняюць успрыняцце.

6. Здараецца, што, успамінаючы размову, мне прыходзяць на памяць не асноўныя, а другарадныя дэталі.

7. Калі ў размове ўзнікаюць цяжкія для разумення моманты, я адключаюся.

8. Звычайна я з прадузятасцю стаўлюся да таго, што чую.

9. Калі я адчуваю стомленасць ад размовы, то пачынаю глядзець у кут або па баках.

10. Мне няцяжка зрабіць выгляд, што я слухаю субяседніка.

11. Як правіла, я спрабую паставіць сябе на месца таго, хто гаворыць.

12. Бывае, падчас размовы я нечакана ўсведамляю, што мы гаворым пра падобныя, але не аднолькавыя рэчы.

13. Каб дапамагчы субяседніку выказацца, я стараюся не перапыняць яго – "трымаю паўзу".

14. Для лепшага разумення прадмета абмеркавання я стараюся задаваць пытанні па тэме.

15. Хаця і бываюць моманты, калі вельмі хочацца перапыніць субяседніка і паказаць яму, як трэба выказвацца, рабіць высновы і інш., я стараюся трымаць сябе ў руках.

Кажуць, ёсць людзі, якія адказалі на першыя 10 пытанняў "не", а на астатнія "так", гэта значыць паказалі сябе ідэальнымі слухачамі. Але большасці цяжка вызначыць межы свайго адказу ў рамках "так" або "не", таму што ў жыцці ўсё здараецца.

У любым выпадку гэты тэст дапаможа вам паглядзець на сябе збоку, прычым, з боку вашага субяседніка.

Пытанні тэста з'яўляюцца адначасова і правіламі эфектыўнага слухання. Бланк з пытаннямі і вынікамі тэста застаецца ў вас, і таму правілы слухання заўсёды з вамі.

Дзеці, сёння мы з вамі зразумелі, як важна ўмець слухаць, бо 45 працэнтаў часу ва ўзаемінах мы слухаем сваіх субяседнікаў. Мы пазнаёміліся з крытычным і эмпатычным відамі слухання. Мы ведаем, як і калі слухаць пасіўна або актыўна. Вы пазнаёміліся з сабой як слухачамі, даведаліся пра свае вартасці і недахопы, вы маеце план самаўдасканалення. Калі вы пачуеце вядомае выслоўе пра тое, што слухачы звычайна не слухаюць; а калі слухаюць, то не чуюць; а калі чуюць, то не разумеюць; а калі разумеюць, то не так, дык вы дакладна будзеце ведаць, што гэта не пра вас.

**Святлана РАДЗЬКОВА.**

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

# Хімічная "Свая гульня"
## (10-11 клас)

**Правілы гульні аналагічныя правілам тэлевізійнай гульні**

### *Сіні раунд*

**Тэма: ... або...**

10 – Растваральныя асновы, або ... (шчолачы)

20 – "Свая гульня": трынітраталуол, або ... (тратыл)

30 – "Кот у мяшку": клятчатка, або... (цэлюлоза)

40 – Калаксілін, або... (дынітрацэлюлоза)

50 – Вугляводы, або... (гліцыды)

**Тэма: кухонная соль**

10 – Як было прынята на Русі сустракаць дарагіх гасцей? (З хлебам-соллю.)

20 – Дык за які час можна ўдваіх з'есці пуд солі? (Чалавек у год з'ядае прыблізна 3–3,5 кг солі. Гэта значыць, удваіх 16 кг солі можна з'есці прыкладна за 2 гады.)

30 – Што азначала па старажытных павер'ях прасыпаць соль? (Наклікаць на сябе бяду.)

40 – "Кот у мяшку". Тэма: металы (10 балаў). Пігмент крыві чалавека ўтрымлівае атамы металаў гэтага элемента (жалеза).

50 – Лічаць, што масавая гібель напалеонаўскіх салдат, асабліва параненых, пры іх адступленні з Масквы была абумоўлена недахопам у ежы кухоннай солі. Якая роля солі ў арганізме? (Наяўнасць солі ў крыві забяспечвае неабходны асматычны ціск, ад якога залежыць нармальная жыццядзейнасць арганізма.)

**Тэма: хімікі і літаратура**

10 – Гэты знакаміты рускі вучоны быў добра знаёмы з І.С.Тургеневым, пра што згадвае ў кнізе "Запаветныя думкі" (Дз.І.Мендзялееў).

20 – Вядомы вучоны ў галіне вывучэння біясферы падчас навучання ў Пецярбургскім універсітэце ўваходзіў у навукова-літаратурнае таварыства (В.І.Вярнадскі).

30 – Сучаснікі называлі гэтага вучонага паэтам... каменя (А.Е.Ферсман).

40 – Вучань гэтага вучонага І.М.Бутлераў пісаў, што хімік Н.Н. часта ў дыскусіях з філолагамі цытаваў на памяць спрэчнае месца (Н.Н.Зінін).

50 – "Свая гульня": вучань вядомага фізіка-хіміка І.А.Каблукова стаў вядомым паэтам (Андрэй Белы).

**Тэма: вялікі закон**

10 – Першае паведамленне аб адкрыцці перыядычнага закона было зроблена... (6 сакавіка 1869 г. на пасяджэнні Рускага хімічнага таварыства).

20 – Як цяпер называюць элементы, якім Дз.І.Мендзялееў даў назвы: экабор, экаалюміній, экасіцыліум? (Скандый, галій, германій.)

30 – "Кот у мяшку". Тэма: солі (40 балаў). Крыжакам у сярэднія вякі плацілі золатам, срэбрам, а часам і... (кухоннай соллю).

40 – Назавіце "адрас" "лянівага", "тайнага" і "схаванага" элементаў (8 група, галоўная падрупа. Аргон, крыптон, ксенон.)

50 – Акадэмік Г.Н.Флёраў распрацаваў незвычайную сістэму сінтэзу звышэлементаў. Ён прапанаваў уран абпраменьваць іёнамі... (урану. Пры зліцці ядраў утвараецца ядро-монстр. Пры яго імгненным самаадвольным дзяленні могуць аказацца ізатопы 114 і 126 элементаў.)

**Тэма: "Аш-два-о"**

10 – Якую ваду называюць "мёртвай"? (У склад якой уваходзіць дэйтэрый.)

20 – Чаму вадкая вада ў біясферы ніколі не бывае хімічна чыстай? (З-за высокай дыэлектрычнай пранікальнасці.)

30 – Як уплывае на клімат Зямлі тое, што вада валодае вялізнай цеплаёмістасцю? (Вада з'яўляецца своеасаблівым тэмпературным рэгулятарам і змякчае клімат. Вясной і летам ахалоджвае, а зімой награвае паветра.)

40 – Якое значэнне мае высокая схаваная цеплата плаўлення ільду? (Гэта ўратоўвае ад вясенніх навадненняў.)

50 – "Свая гульня". Хто, яшчэ ў сярэднія вякі, так пісаў пра ваду: "Вадзе была дадзена вялізная ўлада стаць сокам жыцця на Зямлі"? (Леанарда да Вінчы.)

### *Чырвоны раунд*

**Тэма: адна літара**

20 – Якая розніца паміж ангідрыдам і ангідрытам? (Ангідрыд – кіслотны аксід; ангідрыт – бязводны сульфат кальцыю, мінерал.)

40 – Якая розніца паміж сульфатам і сульфітам? (Сульфаты – солі сернай кіслаты, сульфіты – солі сярністай кіслаты.)

60 – "Свая гульня". Якая розніца паміж цукрозай і цукразай (Цукроза – бураковы цукар; цукраза – фермент.)

80 – Якая розніца паміж гліцэрынам і гліцэрыдам? (Гліцэрын – трохатамны спірт; гліцэрыд – складаны эфір гліцэрыну.)

100 – Якая розніца паміж дэкстранам і дэкстрынам? (Дэкстрыны – прадукты частковага расшчаплення крухмалу і глікагену, дэкстран – поліцукрыд, кровазамяняльнік)

**Тэма: металы**

20 – Што захоўвалі ў сярэднія вякі ў пасудзіне з алюмінію? (Алюміній тады яшчэ не ўмелі атрымліваць.)

40 – Які метал называюць "металам хірургаў"? (Тантал. Ён не раздражняе мышцы і тканкі.)

60 – "Кот у мяшку". 40 балаў. Тэма: хімічныя элементы. Як называюцца хімічныя элементы з атамным нумарам больш за 93? (Трансуновыя.)

80 – Назавіце элемент, сплавы якога ў паўтара раза лягчэй за алюміній і больш трывалыя, чым сталь. (Берылій.)

100 – Які элемент адыграў рэвалюцыйную ролю ў гісторыі? (Выкарыстанне жалеза прывяло да разлажэння першабытнага ладу.)

**Тэма: хімія - сельскай гаспадарцы**

20 – Што такое мікраўгнаенні? (Мінеральныя ўгнаенні, якія ўтрымліваюць мікраэлементы.)

40 – Дзе прымяняюць у практыцы сельскай гаспадаркі растваральныя гідраксіды? (Дэзінфекцыя памяшканняў, барацьба са шкоднікамі і хваробамі фруктовых дрэў, вапнаванне глебы.)

60 – У якіх выпадках прымяняюць растворы пэўнай канцэнтрацыі? (Прыгатаванне мінеральных падкормак, раствораў ядахімікатаў)

80 – Якія солі сернай кіслаты выкарыстоўваюць для аховы раслін ад шкоднікаў і хвароб? (Сульфаты медзі і жалеза.)

100 – Дзе ў практыцы сельскай гаспадаркі выкарыстоўваецца павольнае акісленне? (У парніках.)

**Тэма: аўрум**

20 – Склад "царскай гарэлкі". (Адна аб'ёмная частка азотнай кіслаты і тры часткі салянай кіслаты.)

40 – Які аднаўляльнік: вадарод, вугаль, аксід вугляроду (II) лепш выкарыстоўваць для аднаўлення золата з руд? (Золата знаходзіцца ў прыродзе ў свабодным выглядзе.)

60 – Чаму ў ювелірных і тэхнічных вырабах выкарыстоўваюць не золата, а яго сплавы? (Чыстае золата – метал занадта мяккі, зносастойкасць яго невялікая.)

80 – "Кот у мяшку". 60 балаў. Тэма: вітаміны. Да якога класа злучэнняў адносяцца вітаміны C і B? (Вугляводы.)

100 – Калі б удалося атрымаць золата з гэтай крыніцы, то на кожнага жыхара планеты яго аказалася б не менш за тону. Дзе ж яго так многа? (У марской вадзе. На 1 мл вады – 0,01 мг)

**Тэма: рэдкія і рассеяныя**

20 – У Індыі для правядзення свяшчэнных абрадаў солі стронцыю змешвалі з вугалем, серай і берталетавай соллю. Як мы называем сумесь цяпер? (Бенгальскія агні)

40 – Гэты элемент аказаўся апошнім па часе адкрыцця і па размяшчэнні ў табліцы Мендзялеева, таму ён мае права "заявіць": "Мая хата з краю". (Лютэцый.)

60 – Экамарганец не ўдалося адкрыць. Толькі ў 1977 годзе яго атрымалі штучным шляхам і так і назвалі – "штучны", або... (Тэхнецый.)

80 – Гэты элемент мае агульную назву з ярка-сіняй фарбай і краінай, з якой гэтая фарба прывозілася. (Індый.)

100 – "Свая гульня". Элемент, названы ў гонар грэчаскай багіні мудрасці. (Багіня мудрасці – Афіна Палада. Элемент – паладый.)

### *Раунд "Свая гульня"*

**Тэма: хімікі жартуюць**

А.І.Сумарокаў напісаў эпіграму на М.В.Ламаносава, якая заканчвалася словамі: "Ці хадзілі на Парнас?" На што Міхаіл Васільевіч тут жа адрэагаваў: "Хадзіў, ды..." Закончыце яго выказванне.

Адказ: "... не бачыў там вас".

**Галіна КАПЕЦКАЯ,**
**настаўніца хіміі гімназіі Светлагорска.**

